УДК 821. 172. 5-9

ББК 84(4Беи)

С 98

Прадмова Уладзімера Арлова

Станкевіч Г.

С 98  Мая зорка /Георгі Станкевіч. Віцебск. Партнер-друк, 2009. – 100 с.

ISBN 985-6729 – 38-9

Кніга “Мая зорка” – другі зборнік вершаў Георгія Станкевіча. Паэзія Станкевіча кранае гранічнай шчырасцю і болем беларуса, які пазбаўлены шчасця быць сваім чалавекам на сваёй зямлі.

УДК 821. 172. 5-9

ББК 84(4Беи)



ISBN 985-6729 –38- 9



# МАЯ ЗОРКА

Станкевіч Георгі нарадзіўся ў 1962-м на Сенненшчыне, скончыў Горацкую сельгасакадэмію. 12 гадоў адпрацаваў у сельскай гаспадарцы. У 2003-м завочна скончыў МДЛУ. Зараз настаўнічае на бешанковіччыне. Жыве ў вёсцы Старыя Ранчыцы Бешанковіцкага раёна. Большасьць вершаў аўтарам пакладзена на музыку і выконваецца пад гітару.

Канцэрт можна замовіць па тэлефонах 8-029-218-47-39 або 8-02131-3-74-55.

# Зорка Беларусь

Падчас чытаньня рукапісу Георгія Станкевіча выплылі з памяці радкі майго першага рэдактара незабыўнага Міхася Стральцова:

*Імгненьні ёсьць пакутлівага шчасьця –*

*Ірвуцца ўвысь і слова, і душа,*

*Ды толькі тое ўсё ў радок ня ўкласьці,*

*Як ты яго, радок, ні падвышай.*

*Бо адмыслова, самадастаткова*

*Само сабой гаворыць пачуцьцё...*

Кніга “Мая зорка” павінна ўразіць чытачоў найперш гэтым – імкненьнем душы аўтара да ўзьлёту, да спавядальнасьці і гранічнай шчырасьці. Вершы Станкевіча яшчэ толькі на шляху да паэтычнай вышыні, але ў іх пульсуе непадроблены боль беларуса, якога пазбаўляюць шчасьця быць сваім чалавекам на сваёй зямлі.

*Толькі я не з такіх,*

*Хто здаецца на міласьць бяз бою –*

піша Георгі, і ў гэтым ён падобны да тых Станкевічаў, імёны якіх трывала ўвайшлі ў нашую гісторыю.

Георгію Станкевічу – верыш. Як верыш у зорку Беларусі, што ў XXI стагодзьдзі абавязкова стане такой, якою мы пакуль бачым яе ў сьветлых мроях.

**Уладзімер Арлоў.**

# Пра сябе

Мае вёсны сплылі,
Нібы лёгкі туман над ракою,
І няўмольнае восені
Ў скроні ўплятаецца дым.
Шмат за сьпінай дарог,
А душы ўсё няма супакою.
Шмат за сьпінай гадоў.
Чым адметныя тыя гады?

Дзесьці да дваццаці
Грыз навуку зацята, упарта.
Паляваў на жар-птушку,
А час так марудна ішоў!
Толькі чулася мне,
Што жыццё перайначыць нам варта.
Усё больш набівала аском
Бальшавіцкае шоу.

Марыў я ашчасьлівіць людзей
За савецкім тым часам.
Не імкнуўся ад працы
Схавацца куды б у цянёк.
Тры гады будаваў камунізм
У асобным калгасе,
Кіраваў камсамолам.
(Адтуль, дзякуй Богу, уцёк.)

Пакахаў, ажаніўся,
І сын ужо кніжку трымае.
Настае яго час
Тую птушку лавіць на Зямлі.
Я – шчасьлівы таму,
Што чыноў і пасадаў ня маю,
Што аднойчы пасьпеў атрымаць
Канчатковы разьлік.

Пакаленьню майму перажыць
Выпаў час адмысловы:
Кожны з нас даганяе
Стагодзьдзя імклівага бег.
Я ламаю цяпер галаву
Над нямецкаю мовай
І знаходжу у тым асалоду
І радасьць сабе.

Спачуваю сябрам і знаёмым,
І простаму люду,
Хто ня здолеў адразу
Намацаць сваёй калеі.
Ненавіджу ільслівасьць, пакору,
Прадажных іудаў.
Не хапае жыцьця,
Каб пароду іх зьвесьці зь зямлі.

А ў сягоньняшнім дні
Мне за тое бракуе настрою,
Што маю Беларусь
Воляй лёсу імкне ў нікуды.
Толькі я не з такіх,
Хто здаецца на міласьць бяз бою,
Мы пабачым яшчэ, хто каго.
Я яшчэ малады!

# Роднае

Ўсё,
Што ёсць у мяне ў цэлым сьвеце –
Ад бацькі і маці.
Абавязаны я кожным крокам
Бацькоўскае хаце,

Каласам, што шапталіся ў полі
Са мной пры спатканьні,
Зорам, што ў паднябесьсі дрыжэлі
Да золку-сьвітаньня,

Вечна пыльнай ці гразкай
Раз'езджанай роднай дарозе,
Што дагэтуль мяне калыхае
У жыцця на возе,

І духмянай, з агню,
Ды заўсёды жаданай скарынцы,
І агеньчыку ў полі –
Маленькай, далёкай іскрынцы.

Гэта ўсё зьберагу ў сваім сэрцы
Да самага скону.
Гэта ўсё не аддам
Ні за якія грошы,
Нікому.

# Агеньчык у акенцы

Чым далей жывеш - бліжэй да Бога,
І ўсё безупыньней часу бег.
Зноў зьбіваю аб каменьні ногі,
Самаго шукаючы сябе.

Ды чым больш жыву на белым сьвеце,
Тым бліжэй да сэрца родны кут,
Дзе крыніца мараў запаветных,
Сілы свае чэрпаю адкуль.

Зноў расьсякае цемру,
Пранізвае бясконцасьць,
Майму дыханьню надае працяг
Агеньчык у акенцы –
Бацькоўскай хаты сонца
І зорка пуцяводная жыцця.

Чым далей жывеш - бліжэй да Бога.
Да свайго сумленьня ці бліжэй?
Не ўцячы мне ад сябе самога
Ў роздуме бязьлітасных начэй.

Не, мяне ніяк не спакушае
Існаваньне вечнае ў раю.
На ніякі рай не прамяняю
Бацькаўшчыну любую сваю.

# Бацькаўшчына

Дзе бярозавы гай
Песьні ўлетку птушыныя гушкае,
Дзе гамоніць са мной,
Лепшым сябрам сваім, ручаёк,
Ёсць краіна адна,
Да якой сіратліваю птушкаю,
Дзе б ні быў, я імчуся ў адведкі
Хаця б на дзянёк.

Тут наўкол усё так,
Як было ад дзяцінства ад самага.
Мабыць, толькі бярозкі зьмяніліся,
Сталі вышэй.
Ды на ганку мяне
Не страчае матуля ласкавая.
Патухае і ў бацькі сьвятло
Васільковых вачэй.

Абыходжу сяло.
Толькі сэрцу балюча прызнацца,
Хоць яшчэ ахінае яго
Белы бусел крылом,–
Памірае яно,
Застаецца хат дзесяць-дванаццаць,
Дзе яшчэ раніцою
Бруяцца дымкі над жытлом.

Тут ніколі не будзе ўжо
Звонкага шалу вясельляў.
На сяле толькі вецер
Гаротныя песьні пяе.
На ўтравелых падворках
І ластаўкі нават ня селяцца:
Іх ня вабяць яны,
Як людзкога цяпла не стае.

Ад згрызотаў сумленьня,
Адчаю, нясьцерпнага болю,
Тут, на роднай зямлі,
Ля пахілых магільных крыжоў,
Быццам здраднік які,
Што згубіў назаўжды сваю долю,
Я стаю і маўчу…
Вось табе і прыехаў дамоў.

# Бацька

*Мікалаю Пятровічу*

У маіх успамінах, бы ў сьне,
Ты дахаты вяртаешся ў стоме
І на вокліч: "У космас!" – мяне
Ў захапленьні шпурляеш да столі.

Шчок паголеных помню я пах,
Ды часьцей пачарнелых, калючых.
Не баяўся ў тваіх я руках,
Толькі вочы ад шчасьця заплюшчваў.

На душы было сьвята, калі
Ты малога мяне браў на працу.
Не аднойчы здаваў я залік,
Каб мець права тваім сынам звацца.

Пот салёны ня раз смакаваў –
Упраўляўся з касой ці зь сякерай.
І зацята, упарта шукаў,
Дзе прытулак сумленьня і веры.

Адчуваў: яны ёсць на зямлі
У людзей, што аруць свае гоні.
Цягам году ў каго мазалі,
Як твае, не сыходзяць з далоняў.

Вас, нязломленых, праведны шлях,
Бо аснова жыцьця – гэта праца,
Бо трымаецца сьвет з мазаля
І, дасьць Бог, будзе вечна трымацца.

# Успамін

*Светлай матульчынай памяці*

Зружавелы на марозе ранак
Раскашуецца ва ўтульнай хаце.
Я з-пад коўдры моўчкі назіраю,
Як на кухні гаспадарыць маці.

Азавецца сонная масьніца
Голасам прастуджаным ад печы.
Мне ж, малому, раніцой ня сьпіцца,
Да матулі хочацца падбегчы.

Ды яна сярод сьнягоў зьнікае,
Сонечны ўзыход нясе ад студні.
Я ж няўзнак салодка засынаю,
Мусіць, адчаплюся ад прастуды.

А матуля, зморaная ношай,
Прыйдзе да мяне і сон вартуе,
Кратае губамі асьцярожна
Лоб мой: "Божа крый тэмпература?!"

Ад маіх вакон прагоніць хмары –
Проста ў ложак прынясе бліноў мне,
Што, як сонца, патыхаюць жарам:
"Еж, мой любы,- скажа, - на здароўе!"

Лёс адзьдзячыў мне гарэзам-сынам.
Я люблю яго парой папесьціць.
А самому хочацца часінай
Тых бліноў матульчыных паесьці.

# Наказ

*Сыну Антосю*

Калі ў цябе сілы няма
І ня можаш ісьці
Да мэты жаданай,
Ня трэба адчайвацца, хлусіць,
Зьбяры сваю волю ў кулак,
Нібы птушка ляці
Туды, дзе радзіма твая,
Дзе выток Беларусі.

Над роднаю хатай
Хоць колькі хвілін пакружы,
Паслухай, як дрэвы вядуць
Ціха зь ветрам размову,
І раптам адчуеш:
Ў таемным куточку душы
Абудзіцца слова,
Якое драмала у сховах.

Тых слоў залацінкі
Руплíва, нястомна зьбірай.
Ты зь імі нязломны,
У іх твая годнасьць і сіла.
Прыслухайся: стогне
Пад дзікім прымусам наш край,
У слоў, што жылі тут спрадвеку,
Зламаныя крылы.

У сьвеце ёсць тысячы моваў,
А наша – адна.
Яе не цурайся
Да самага скону, давеку.
Бо толькі тады
Зможаш радасць палёту спазнаць
І толькі тады
Ты адчуеш сябе Чалавекам!

# Слова

Я хадзіў за далёкія моры,
Падымаўся ў бязьмежную сінь,
Штось шукаў у захмарных прасторах
І зайздросьціў шчасьліўцам усім.
Прасьвятленьне найшло выпадкова,
Быццам выпіў жывое вады:
Ёсьць са мной беларускае Слова –
Назаўжды!

З родным словам, напеўным і блізкім,
Усьміхаецца мне цэлы сьвет,
Яно ў сэрцы маім ад калыскі
Ціхай песьняй матулі жыве.
Яго помню і ў шчасьці, і ў горы,
І дзялюся тым словам з другім.
Зь ім душу нечым сьветлым агорне,
Дарагім.

Калі зь ім завітаеце ў госьці –
Шчасьце ў хату яно прынясе.
А калі ў Вас ня клеіцца штосьці –
З ім наладзіцца ўсё пакрысе.
Я жыцьця не ўяўляю іначай,
Я яго сваёй доляй заву,
Весялюся з тым словам і плачу –
Тым жыву!

# Думкі

Кожны дзень устаю
І сябе зноў і зноў я пытаю:
А ці так я жыву,
А ці ўсё разумею як сьлед?
Кожны дзень прызнаюся ў любові
Табе, родны краю.
Толькі вораг жадае,
Каб ты і аглух, і асьлеп.

У вады і ў травы,
І ў братоў нашых меншых вучуся,
Як павінны мы жыць,
Каб ня несьці ў сьвет гора-бяду.
А яе – акіян
На гаротнай маёй Беларусі.
Тут і птушкі ў гаях
Невясёлыя песьні вядуць.

Не на месцы душа –
Засыхае бяз слоў сакавітых,
І пакутуе сэрца –
Нібы на чужыне жывеш!
І цьвіком у грудзях боль хацін,
Што крыж-накрыж забіты,
І ня выйсьці з праклятага кола
Ніяк, хоць зарэж…

Толькі сонца, што ўсходзіць,
Мне дорыць іскрынку надзеі,
А пякельная думка
Нутро неадступна грызе:
Як нам край зьберагчы,
Засланіць ад таго ліхадзея,
Што ня хоча заўважыць упарта:
"А хто там ідзе?"?

# Прызнаньне

З'ехаць мне б у якое мястэчка,
На край самы Зямлі, ці ў тайгу,
Каб унікнуць бязглуздзіцы спрэчак,
Каб адно роднай мовы чуць гук.

Трапіць мне б у тае захалусьце
На Сусьвета краю самаго,
Дзе ніхто табе ў вочы ня схлусіць,
Дзе спаткаюць цябе, як свайго.

Ды ня вер мне, цябе не пакіну,
Беларусь, мая зорка і лёс.
А калі неспадзеўкі я зьгіну,
Ведаць ты, дарагая, павінна,
Што табе адной сэрца я нёс.

# О, Беларусь...

"Мне сняцца сны аб Беларусі."
Янка Купала

О, Беларусь, мая вар'ятня,
Мая палата нумар шэсць.
Жаўрук зьвініць штогод глушэй,
Ледзь песьня сочыцца праз краты.

Зямля пад буслявым крылом
Задушаная злым прымусам,
Каб больш нікому не ўзбрыло
Пабачыць сны аб Беларусі.

# Беларусы

Няўцешныя ў бядзе,
Сасьмяглыя, сьляпыя.
Куды нас лёс вядзе
З тугім ярмом на выях?

Няўтульна ў табуне,
Сіпіць наш паганяты.
Зноў ворагаў кляне,
Гразіць шпурнуць за краты.

Ды хопіць! На Зямлі
Страшнейшага – даволі.
Калісьці мы змаглі
Глытнуць глыточак волі.

І ён дурманіць кроў
І поўніць ветразь верай.
Прыслухайся: штокрок
Хтось рве пракляты нерат.

Надыдзе час – усе
Пад сьцяг свабоды станем.
Памалу, пакрысе
І кропля точыць камень.

# Сьцяг

Шмат разоў аб'яўлялі яго
Адслужыўшым, памерлым нібыта.
Ды крывёю на белі сьнягоў
Кожны раз паўставаў ён зь нябыту.

Блізу Воршы, Смаленску пад ім
Уздымаліся тысячы пікаў.
Ды замоўчваюць тыя баі
Летапісцы з маскоўскай прапіскай.

Нас "прылашчыў" расейскі жандар
На стагодзьдзі ў абдымках пачварных.
Клапатліва ўручыў свой штандар,
Чый нашчадак і сёньня ўладарыць.

Яго сымбаль – насільле і страх,
І пад ценем яго тройчы клятым
Праглынуў столькі лёсаў ГУЛаг,
Расцьвілі не адны Курапаты.

І заўсёды пад сымбалем тым
Халуі-запраданцы ў пашане.
Ды заслугі прыпомняцца ім,
Калі сьцяг непакорны паўстане.

Стужкай барвы па белі сьнягоў
Ён уздымецца, бляск не згубіўшы.
Не хавайце дарэмна яго,
Не лічыце дачасна аджыўшым!

# Памяці У.С. Караткевіча

На Беларусі Бог жыве…
Ул. Караткевіч

Я да роднага слова прырос
Змардаваным нутром.
Усім сэрцам сваім
Да яго мілагучнасьці рвуся.
Ды паганай рукой
Вынішчаюцца сёньня суздром
Галасы, што спрадвеку плылі
Над маёй Беларусяй.

Тут агністыя зоры
Спадаюць начамі на дах.
Рай птушыны сюды
Штовясну прылятае з-за мораў.
Ды з гаючых крыніц
Прападае жывая вада,
І квітнеючы край
Цераз край захлынаецца горам.

І адчайна крычаць
Клёны восеньню ў шапках агню,
І заходзіцца плачам ад крыўды
Няўцешнае неба.
Непрыкметна, па кроплі
Губляе жыцьцё цеплыню:
Мова, што красавала вякамі
Прыблудам ня трэба.

Колькі ж нам, беларусам,
У цемры блукаць па жыцьці
Без гаючага слова,
Бяз зоркі сваёй пуцяводнай?!
Зерне кінута ў душы,

Павінна яно прарасьці:
Толькі з роднаю мовай
Мы станем сапраўдным народам!

Я да роднага слова
Прырос усім сэрцам сваім,
Змардаваным нутром
Да яго мілагучнасьці рвуся.
Веру я: прыйдзе час,
Адляціць забыцца мёртвы дым,
Зноў паселіцца Бог
На збалелай маёй Беларусі!

# Максіму Багдановічу

Ці то птушка крычыць уначы,
Ці душа неяк жаласна стогне.
Можа, хоча пакінуць зямлю,
Бо яе кліча Бог.
Я заплюшчваю вочы свае
І імклівай Пагоняй
Па прыціхлых, засыпаных бельлю
Імчуся палёх.

І мільгаюць стагодзьдзі, як дні,
Як слупы верставыя.
Колькі лёсаў людзкіх непаўторных
Ў нябыт уцякло!
Азірнешся наўкол –
Скрозь надзьмутыя твары чужыя.
Не хапае сяброў,
Што заўжды падстаўлялі крыло.

І бязьсьледна зьнікаюць з жыцьця
І адданасьць, і шчырасьць,
Абмялела рака,
І быльлём зарастаюць палі.
А душа белым птахам
Навек адлятаючы ў вырай,
Адарвацца ня можа
Ад роднай зьнямелай зямлі.

І кружляе над намі ўгары,
І крычыць сіратліва…
Дай нам, Ойча, надзею,
Сьвятое ў душы захаваць.
І яшчэ раз праз цемру
Прарвацца Пагоняй імклівай,
І не даць яе больш
Ні разьбіць, ні спыніць,
Ні стрымаць!

# Памяці Кастуся Каліноўскага

Што зрабілі прыблуды з квітнеючым краем!
Стыне сэрца ў грудзях, у каго яно ёсць.
Усе крыўды твае, Беларусь дарагая,
Праз нутро вострым болем праходзяць маё.

Не змагу распавесьці – кроў студзіцца ў жылах,
Ды вятры над магіламі вам напяюць,
Як наш сонечны ранак зацята душылі,
На кавалкі як рвалі краіну маю.

Мала пошасьці той, сёньня новая пройме
І чарговым паскудствам душу апячэ.
Засьцяць вочы ёй сонца лагоднага промні –
Наша мова, якая жывая яшчэ.

Годзе зьдзекі трываць! Нашых прадзедаў коні
Будзяць ранак іржаньнем на росных лугах.
Ўстаньма ўсе як адзін! Старажытнай Пагоні
Навядзём на злачынцаў пагібельны страх!

Ўстаньма ўсе як адзін, ваяры майго краю!
Няхай злыдні дрыжаць, як асінавы ліст!
За цябе, Беларусь, не шкада, дарагая,
Усю кроў, да апошняе кроплі, праліць.

# Янку Купалу

Ты блукаў па зямлі
Можа сто, можа болей стагодзьдзяў,
Кропляй сьветлай дажджу
Мо мільярды разоў прылятаў.
І ня раз па зіме
Ў полі зернем набрыньваў і ўсходзіў,
Плыў удалеч з ракой,
І ўмярзаў у яе ледастаў.

Ты быў сьведкам таму,
Як са сьпеваў завеі зімою,
З шуму хваляў рачных,
З гукаў ветру, зь нябесных грымот
Узьнікала багацьце,
Складалася родная мова,
І праз процьму вякоў
Захаваў яе лад наш народ.

Нечуваную сілу ў сабе
Маюць простыя словы.
Нашых ворагаў музыка іх
Перуном страшным б'е.
Ды ні польскі арол,
Ні расейскі арол двухгаловы
Не змаглі на свой лад замяніць
Непаўторнасьць яе.

Сёньня зноў затыкаюць нам рот,
Але родная мова
У вясновых зьвініць раўчуках,
Птушкай вольнай пяе.
Злыдні нішчаць яе,
А яна ўваскрасае нанова,
І пакуль на зямлі будзем мы –
Не задушаць яе!

# Памяці Васіля Быкава

Пры жыцці
Не хапае ўсім нам дабрыні і цяпла,
І няма дапамогі-ратунку,
Калі паміраеш.
Закацілася зорка твая,
Плач, зямля мая, плач!
І няма чым суняць сэрца боль,
Загаіць тую рану.

У жалобе сьцяжынкі твае
І твае бальшакі,
І сьхіліліся долу
Людзей непакорных галовы.
І чырвоныя зь белым сьцягі,
Што прайшлі праз вякі,
Аддаюць разьвітальны паклон
Майстру роднага слова.

Тое слова па сіле
Падобна стыхіі агню.
Яно непадуладна
Усёразбуральнаму тлену.
Зь ім у сэрцы сапраўдны народ
Не сьхіліць, не сагнуць,
Пагатоў не прымусіць ніяк,
Каб ён стаў на калені!

# Велікоднае

Адлятае ноч – дзень на падыходзе.
П'е нябёсаў сінь хмельную вясну.
Прачынаецца родны мой народзе,
Беларусь мая ад цяжкога сну.

Кліча росны дзень жаваранак звонкі,
Просіць рук цяпла сьпелая ральля.
Да жывых крыніц роднае старонкі
Акрыяць душой прылятаю я.

Дзе бацькоўскі кут — дум маіх раздольле –
Рынуся на дол, нібы твой ваяр,
Сподыч каб адчуць неўтаймоўнай волі,
Ўздым тваіх грудзей, Беларусь мая.

Каб змагла ў адказ усьміхацца мне ты,
За сьвятло бяроз у тваіх гаях
Усяго сябе аддаю дарэшты,
Родная зямля сінявокая.

Зможам мы твае спадзяваньні спраўдзіць,
Не дадзім цябе набрыдзі на злом.
Ёй не задушыць Кастусёвай праўды,
Ёй не заглушыць роднай мовы звон!

Адлятае ноч – дзень на падыходзе.
Сьніць яшчэ зямля сны мурожныя.
Уставай з калень, родны мой народзе,
Адліваць званы пераможныя!

# Званы

***Мікалаю Бондару***

Зоры патухлі. Ціха. Нядзеля.
Ў вёсцы – сапраўднае свята.
Толькі заўчора шпакі прыляцелі,
І хутка ў поле аратым.

Сонца настойліва будзіць зямельку:
Ранак, а так прыпякае.
Мне ж сёньня, сьветлай вясновай нядзелькай,
Толькі званоў не хапае.

Тых, што анёлаў, пасланцаў нябёсаў,
Ў сэрцы да нас запрашалі,
Што і ў бяздольных, пакрыўджаных лёсам
Радасьць жыцьця абуджалі.

Плыў пераззвон са званіц, бы ад Бога,
Неба жывіла ім душы.
Ён выганяў з кволых сэрцаў трывогу,
Страх, недавер або сьцюжу.

Быў пахавальны ён ці велікодны,
Ды на зямлі Русі Белай
Простаму люду і высакародным
Быў ён, аднак, зразумелым.

І для ратая, і для паэта
Поўніў сьвятлом ён абшары,
І, удыхаючы музыку гэту,
Ўраз прасьвятляліся твары.

Калі зазвоняць званы напрадвесьні –
Бог з вышыні адгукнецца.
Можа, на крылах іх сонечнай песьні
Прыйдзе вясна ў нашы сэрцы?

## Вясновае

У небе сакавік,
І ў думках сакавік.
І дзень ужо вялік,
І цень яго вялік.

Надзеі белы дзень
Няўцешна праміне.
Трывогі чорны цень
Сваім крылом кране.

## Маладому пакаленьню

Ён цябе не абыдзе,
Як ты ні пніся,
А надыдзе твой судны дзень.
І пакуль шчэ не позна –
Ты азірніся:
Ці туды цябе лёс вядзе?

І калі ты ўжо выракся
Роднае мовы,
Хоць табе няма й дваццаці, –
Да жыцьця ты грунтоўна
Ужо гатовы,
І далёка мусіш пайсьці!

# Сінічка

***Валянціне Гракун***

Восень скончыла песьні раптоўна:
Была – і няма.
Не шкадуйце мяне,
Мне ня трэба казённай спагады.
Сівер з поўначы ноччу падзьмуў:
Прывітаньне, зіма!
Першы раз у жыцьці
Я твайму надыходу ня рады.

Барсуком закапацца ў нару
Так ахвоціцца мне,
Каб ад жаху начэй ледзяных
Не спынілася сэрца,
Каб ва ўтульным куточку
Пахрапваць паціху ўва сьне,
А вясною ласкавай
На сонейка выйсьці пагрэцца.

Тут знаёмых сустрэць барсукоў,
Хто ціхутка, як я,
Пераседзеў у норках
Ліхое нашэсьце-навалу.
І трапечацца сэрца маё,
Быццам у вераб'я.
Раптам чую: сінічка
Адна за акенцам сьпявае.

І за думкі свае
Ахапіў мяне сорам такі!
Гэта птушачка мне
Запаліла надзеі газьнічку.
У напевах яе
Чуцен голас вясны трапяткі.

Стогны злых завірух
Не спужалі маленькай сінічкі!

Рана лезьці ў нару
І чакаць, калі вернецца май.
Калі нават згарым,
Быццам зь неба лятучыя зьнічкі,
Мусім жыць і нястомна змагацца
За родны свой край.
А спатрэбіцца мужнасьць –
Ня пойдзем прасіць у сінічкі.

## Дабраславі Вас Бог...

***Аляксандру  Скачку***

Дабраславі Вас Бог, сябры мае,
На ўсіх дарогах-пуцявінах Вашых!
І ўраньні, калі сонейка ўстае,
І ўвечары, як зоркі йдуць на пашу.

Нахай душы штодня паўнее скарб,
Агеньчык Ваш не чэзьне ў марнай скрусе.
Нягледзечы на ліхалецьце каб,
Вы ўсё ж змаглі дайсьці да Беларусі!

## Я вярнуўся дамоў...

Я вярнуўся дамоў, Айчына,
Не сышоў, не сканаў, ня зьнік.
Як ня браму сьвяточна-чынна,
Ты хоць веснічкі расчыні.

Урачыстых мелёдый - залішне,
Сьлязіною – шпачыны сьпеў.
Вось, матуля страчаць каб выйшла,
Больш нічога б і не хацеў…

# Выспа пакрыўджаных душаў

Сонца на досьвітку ў небе няма,
Роднае слова зламысна прыдушана.
Не Беларусь паўстае праз туман –
Выспа пакрыўджаных душаў.

Тут уладараць злосьць і бяда,
Слухаць брахню ўсе дазваньня прымушаны.
Не Беларусь гэта – нейкая здань,
Выспа пакрыўджаных душаў.

Ты азірніся, хто побач ідзе:
Вочы – патухлыя, вусны – прыкушаны.
Край ганьбы, гвалту, зьнямелых людзей –
Выспа пакрыўджаных душаў.

Толькі сумесна, усёй  грамадой
Зможам хлусьні камяні з месца зрушыць,
Каб захлынуўся  сваёй жа брыдой
Той, хто нявечыць нам душы.

# Сьвіньні ў агародзе

(байка)

Улезьлі сьвіньні ў агарод.
Псуюць націну і карэньні.
Набраўшы зельля поўны рот,
Вішчаць: маўляў, частуюць дрэньню!

Галоўны ж кныр – хлапчына-зух,
Прыблуда нейкі з-за імшары,
Напхаў дасыта свой трыбух
І ганьбіць ворагаў-пачвараў:

“Праклясьце ім на ўсе вякі!
Праз іх мы бульбіны ня маем!
Праз іх, праз нелюдзяў такіх
Народ сьвіньнячы галадае!”

О, родны працавіты люд!
Ня вер кныру з ягонай зграяй.
Яны карміліцу-зямлю,
Ня сеялі і не аралі.

У тых жывёлін век-вяком
Няма ні кропелькі сумленьня.
Калі ты станеш парсюком –
Мазгі атлусьцеюць ад лені.

Абраза, брыдкая хлусьня
У статку іхнім у пашане.
За прывілегіі грызьня
Вірыць на лехах да зьмярканьня.

Улезьлі сьвіньні ў агарод,
Кіруюць тымі, хто у полі!
І сьпіць у шапку мой народ...
Каб не праспаў жа лепшай долі!

# Ліст Прэзідэнту

Я - з Заходніх губэрняў
Праклятай Расейскай імпэрыі.
Тут “великий могучий язык”
Моцна стаў, на вякі.
Толькі розум і сэрца мае
Адмаўляюцца верыць,
Што да роднае мовы
Народу закрыты шляхі.

Нас не вельмі шануюць,
Упарта зьбіваюць на сьцежкі.
Даць разьбег беларускаму слову
І думкі няма!
У краіне Купалы і Коласа –
Гора бяз межаў:
Скрозь – пакуты і боль,
Крывадушша, нахабства, падман.

Паважаны спадар Прэзідэнт!
Крыўду чыніце кроўную,
Што ня хочаце Вы
Мову краю свайго зьберагчы.
Які зьдзек і абраза:
Нянаскай, чужынскаю моваю
Свае гутаркі весьці
І дзетак у школках вучыць!

Мы ж – дзяржава,
А мовы спрадвечнай ня маем, васпане!
Гэта Вам не на полі калгасным
Вусьцішны агрэх.
Наша мова была
Шчэ ў Вялікага Княства ў пашане,
І пазбыцца яе –

Грэх сьмяротны, нябачаны грэх!

Вам, шаноўны, яе падтрымаць
Не хапае закваскі.
Вы не чуеце голас крыві
Нашых продкаў усіх,
Хто на Грунвальдзкім полі ляжыць
І на полі Аршанскім.
Чый жа будзеце Вы спадкаемца
На Белай Русі?

На той мове, спадар Прэзідэнт,
Вы аднойчы кляліся,
Ды бяспамяцтва Ваша
Вядзе нас усіх да бяды.
Аддавайце ж даўгі,
Не глуміце сьвятую вялікасьць
Найважнейшага скарбу,
Што быў, ёсць і будзе заўжды!

## Песьня, напісаная падчас прагляду БТ

Інтанацыяў родных
Ты тут не пачуеш.
Нічога няма тут,
Сьвятога табе.
Беларускасьці
Каліўца тут не начуе,
Дзень і ноч
Лье атруту у душы ТБ.

Поўным ходам ідзе русыфікацыя,
І балюе зьняважлівы зброд:
Зьнеслаўляецца цэлая нацыя –
Старажытны славянскі народ.

Рвуцца з тэлеэкрану
Чужыя сынтагмы,
Нам зацята ўбіваюць
Танных песень напеў.
І пад музыку тую
Таньчаць здраднікі танга,
Ну, а большасьць бяздумна
Паўтарае прыпеў.

Поўным ходам ідзе русыфікацыя,
І балюе зьняважлівы зброд.
Абалваньваецца наша нацыя –
Старажытны славянскі народ.

Без супынку
Пачварнае коціцца кола:
Нішчаць родныя словы
Адно за другім!
І ўсё меней
Сярод беларусаў вясёлых,
І ўсё большае ў тварах
Нястрымнай тугі.

Поўным ходам ідзе русыфікацыя,
І балюе зьняважлівы зброд.
Выкарчоўваецца наша нацыя –
Старажытны славянскі народ.

## Прыйдзе дзень!

Я выходжу за браму начы,
Ад сябе уцякаю.
На гасьцінцы трывог
Скрозь шуміць маладая трава.
Папялішчы наўкол.
Што зрабілі з табой, родны краю!

Ты аглух і асьлеп,
І няма болей сілы трываць.

На знаёмых сьцяжынах –
Пахілыя, змрочныя дрэвы.
Клён стары каля ганку
Зацята, трывожна маўчыць.
Лес маркотна прыціх,
Не чуваць нівы жытняе сьпеваў,
І губляецца сонечны дзень
Сярод дзікай начы.

Абмялелі крыніцы,
Што поўнілі плыньню аорту.
Не зьвініць больш жаўрук:
Паквітаўся і зь ім злосны гун!
Стаў усьмешлівы край
Змардаваны, зьнямелы, як мёртвы,
І жывою вадой
Ажывіць я яго не магу.

Ды пакуль будзе сэрца
Душыцца-пляжацца крывёю,
І пакуль твой блакіт
Будзе рвацца праз грудзі мае,
Я не кіну цябе, родны мой,
І ў бядзе я з табою.
Як ні тужыцца ноч –
Прыйдзе дзень на прасторы твае!

## Сябру беларусу

Калі твае жыцьцё ў нядолі чэзьне,
А сэрца бег спыняе ліпкі жах,
Ты памаліся, і твая ўваскрэсьне
Зьнямелая, сасьмяглая душа.

Ты страсяні зь яе ланцуг пакоры –
Трымценьне векавечнае міне.
Ня можа для цябе быць болей гора,
Чым бачыць, што Айчыну нечысьць гне.

Стань іншым, чым учора і заўчора,
Сам вызваліся ад сваіх пакут.
Хадзіць табе ня трэба за тры моры,
Сьвятыні каб вярнуць у родны кут.

Душу жыві сьвятлом, люляй надзею,
Усім сваю нязломнасьць пакажы,
І слова матчына праклятым ліхадзеям
Не прамяняй на юдзіны грашы.

## Скачка

***Алесю Бабаеду***

Месяц хмаркі рассоўвае рогам.
Вось каму ні спакою, ні сну!
Ён адзін над пустэльнай дарогай
Хоча коні мае павярнуць.

Ды іх збочыць ніхто не прымусіць,
Як і час, што адмервае век:
Я над роднай лячу Беларусяй,
Дзе душа мая ў песьнях жыве.

Гэта скачка – палёт непаўторны,
Доўгі век, нібы сон, прамільгне.
І дарэмна хтось птушкаю чорнай
Напярэймы кідаецца мне.

Хіба ж вецер у полі дагоніш?!

Не спыніць мой імклівы палёт!
І далей зацугляныя коні
Вёрсты рвуць па зьнямелых палёх.

Цішыні ледзяной пачакален
Унікаюць: там шчэрыцца сьмерць,
І ў вялізных праседжаных залях,
І ў маленькай вясёлай карчме.

Гэй вы, коні, мае дзіва-коні!
І куды вас бяссоньне імчыць?
Зоры зь неба ляцяць у пагоню,
Будзіць стук капытоў далячынь.

Неўпрыкмет даляцелі да краю,
Стала ціха і сумна наўкол.
Ноч барвянай заранкай згарае,
Апусьціліся зоркі на дол.

Вось і ўсё. І застаўся на полі
Ад падковаў прытушаны сьлед.
Можа, хтосьці цікаўнасць спатоліць
І ажывіць агеньчык у мгле?

А як не — ён прытоіцца ў крэмні
І аднойчы ўваскрэсьне агнём…
Памыляешся, брат, недарэмна
Мы з табою на сьвеце жывём!

## Мары

Мне так хочацца жыць
І нікога на сьвеце ня мучыць,
Не пакрыўдзіць ні зьвера, ні птушку,
Ні хвалю ў вадзе.
Жыць на роднай Зямлі

Зь непаўторнасьцю ўсёй у сугуччы,
Сустракаць кожны Сонца ўзыход
І вітаць сьветлы дзень.

І глядзець з захапленьнем,
Як рыба на волі жыруе,
Як лісты на бярозах жаўцеюць,
Як лашчыцца кот.
Слухаць рэчкі напеў,
Дзе вада хуткаплынна віруе,
І буслоў прывячаць,
Што прыносяць вясну кожны год.

Мне, папраўдзе, так хочацца стаць
На прыроду падобным,
І бяз злосьці, бяз скаргаў на ўсё
Новы дзень адзначаць.
Разьлівацца ракой,
Плыць па небу хмурынкай бяздомнай,
Ветру ў полі начнога
Пад зорамі доўга шукаць.

І даказваць штодзень і штокрок,
Што галоўнае ў сьвеце
Не багацьце, ня веліч,
Ня помнік яшчэ пры жыцьці,
А адзінства з Прыродай, Зямлёю
І зорным Сусьветам.
І па доўгіх дарогах
Заўсёды з надзеяй ісьці.

Бо тады, як памру
І пакіну усё свайму сыну –
Рэчку, неба, бярозы
І велічны Сонца ўзыход, –
Я хачу, каб усё,

Што на роднай зямлі тут пакіну,
Неўміручыя цешыла душы
Праз тысячы год.

## Добры дзень

Жыта калыхаецца, як мора,
Пачынае ледзь туман радзець.
Кожная травінка мне гаворыць:
"Прывітаньне, хлопча! Добры дзень!"

Рэчка хваляй серабрыцца срэбнай,
Гушкаючы зоры на вадзе.
І галовамі ківаюць вербы,
Шэпчуць мне ласкава: "Добры дзень!"

Вёска прачынаецца нясьмела,
Певень будзіць цэлы белы сьвет.
І яму, і мне незразумела
Тое "здрасьці", што бурчыць сусед.

Сонца мячык радасна вітаю,
Неба сінь становіцца радзей.
Людзі, вам усім дабра жадаю,
Плённай працы, шчасьця. Добры дзень!

## Мястэчка Бешанковічы

Вішнёвым вэлюмам расквечана,
Пчалінай музыкай зьвініш.
Здаецца, ты стаіш адвечна тут,
На стромкім беразе Дзьвіны.

У дзень бялюткі або прыцемкам
Раптоўна на шляху ўстаеш
Таму, хто ў Віцебск або з Віцебску

Дарогі мерае свае.

Амаль ніякіх тут славутасьцяў –
Усё панішчыў войнаў шквал.
У назвах вуліц і завулачкаў
Свой сьлед пакінула Масква.

Дарэмна слыхам не напружвайся,
І не ўзірайся з-пад рукі:
Званоў ня ўчуеш па акрузе ўсёй,
Касьцёлаў зьніклі сьпічакі.

Дзятва са школкі йдзе, ґалёкае,
А слоўца роднага – няма.
І разумееш, як далёка нам
Ісьці праз багну і туман.

Эх, колькі здолець перашкодаў нам,
Каб зьнітаваць сьцяжынкі ў шлях!
Зьбіраць па каліўцу ўсё роднае,
Пакуль адродзіцца зямля.

## Прывітаньне, Дзьвіна!..

Прывітаньне, Дзьвіна!
Я імчаў, каб з табою сустрэцца,
На твае крутасхілы
Ў вярбовых бухматых шатрах.
Так сьпяшаў да цябе,
Што балюча рабілася сэрцу.
Ды я верыў: дайду,
Не паддамся, адолею страх.

Хто за сотні вякоў,
На твае берагі ні прыходзіў!
Хто паціху ішоў,

Хто ляцеў на спатканьне, як я.
Ты ж маўкліва глядзіш,
Як у плыні зьнікаюць стагодзьдзі.
Зачароўвае далеч,
Магутная сіла твая.

Ты надзею нясеш,
Выганяеш праклятую хворасьць,
Лечыш веліччу ціхай
Сумбур-блытаніну душы.
Не бываеш са мною
Санлівай, няшчырай, пакорнай,
А, калі не ў гуморы я,
Здолееш разварушыць.

Ты — аздоба жыцьця,
Краявідаў някідкіх украса,
Сэрца сьветлая радасьць,
Глыбінь непакораных сьпеў,
Маёй існасьці сьцяг.
Я, напэўна, загінуў адразу б,
Калі б нейкі злачынец
З табой разлучыць захацеў.

Тут – каханьне маё,
Тут жыцьця майго льецца аповед.
Колькі ворагі мне
Ні калолі б у сэрца асьцём,
Ім ня ўдасца парваць
З тваёй плыньню трывалую повязь,
Адабраць Беларусь,
Да якой я іду ўсё жыцьцё.

# Мая вёска

Стаяць пры дарозе з вачыма закрытымі,
Маўкліва, гаротна, з адвечнай журбой,
Забытыя Богам і людам забытыя
Старыя хаціны у  вёсцы маёй.

Ці сонца іх паліць бязьлітасна ўвесну,
Ці дожджык ціхутка бяжыць па страсе –
Ніхто на спатканьне ня прыйдзе да весьніц,
Свой жаль або ўцеху ім не прынясе.

Стаяць непрытульна і так сіратліва,
Нібы на асеньняй слаце каласы.
І толькі начамі пад зор пераліvы
Ім родныя сьняцца ў цішы галасы.

Сьхілілі свой голаў маўклівыя вішанькі,
Сьцяжыначкі пазарасталі травой...
Здаецца, у гэтай трагедыі сьцішанай
Народ беларускі ўвасоблены мой.

Стаяць пры дарозе з вачыма закрытымі,
Маўкліва, гаротна, з адвечнай журбой,
Забытыя Богам і людам забытыя
Старыя хаціны у вёсцы маёй.

# Курэйшына

Калі азораць промні першыя
У ціхім полымі сады,
Памчуся ў роднае Курэйшына,
Ў свае юнацкія гады.

Сыду з аўтобуса і пешкі я
Пакрочу легка напраcткі.

І клёны каля хаты першыя
Прыжмураць вочы: хто такі?

І засьмяюцца кветкі вочкамі,
Расінкі зазьвіняць у сне,
І родны дом усімі вокнамі
Прыветна гляне на мяне.

Хоць часу бег не запаволіўся,
Падасца – і ня быў нідзе.
Ўсьміхнецца бацька задаволена,
Прыцісьне да сваіх грудзей.

І я расчулены, узрушаны,
Пайду да раніцы бяз сну
Па сьцежках, бельлю зацярушаных,
Шукаць юнацкіх мар вясну.

# Вуліца

### *Сябрам дзяцінства*

Зноў крочу звонкаю раніцай,
Зноў маю добры настрой.
Сьпеву птушынаму радуюся,
Толькі ў душы неспакой.

Сонейка ў небе, ці хмурыцца –
Гэта цяпер не кране:
Наша вясковая вуліца
Кліча ў дзяцінства мяне.

Вуліца, родная вуліца,
Колькі б гадоў ні прайшло –
Сэрца грукоча, хвалюецца,
Толькі патраплю ў сяло.

Неба ніколі ня хмурыцца,
Сьмех дацямна дзетвары.
Кот на падвоканьні жмурыцца,
Клён уздыхае стары.

Летам прайду да ваколіцы
Ці да ракі басанож
І не магу супакоіцца
Ад хараства зноў і зноў.

Ўзімку дымкамі затуліцца,
Зоркамі сыпле ўначы…
Вочы заплюшчыш і вуліцай
Зноў у дзяцінства імчыш.

## У родных мясьцінах

Вось я і ў родных мясьцінах.
Вецер, мой даўні знаёмец,
Гойдае саду галіны,
Сьнег намятае пры доме.

Моцна мяне абдымае,
Сэрца сьціскае да болю,
Кружыць і прэч адлятае
На прагулянку раздольлем.

Мілыя звонкія далі,
Ціхія сінія ночы!
Вы мае сэрца забралі,
Вы паланілі мне вочы.

Сыплюць іскрынкамі зоры,
Сьнег зіхаціць мітусьлівы.
Клічуць удалеч прасторы,
Вабяць агнёў пералівы.

Гэтым прасьценькім карункам
Больш чым каму давяраю.
Мілыя сэрцу малюнкі,
Далі блакітнага краю.

## Даўным-даўно...

Ранак пазяхае ў ложку,
Час па кропельцы цячэ.
Мне курню сьпявае кошка,
Маці дранікі пячэ.
Падрумяненыя колцы
Пад бялюткім ручніком
Са стала пяшчотным сонцам
Асьвятляюць родны дом.

Кошка лапкамі зацята
Не дае спакою мне,
Выглядам зладзеяватым
Сэрца й чэрствае кране:
"Дай блінок! " - нібы гаворыць,
Не саромецца ані,
І міргаюць сьветлафораў
Два зялёныя агні.

З кошкай разьдзялю сьняданак,
У абоіх хвост трубой.
Звар'яцелы звонкі ранак
Кліча ўдалеч за сабой.
Стрымгалоў за ветрам гонкім
Ірвануся ў белы сьвет,
Каб на ўсіх вяршынях стромкіх
Свой пасьпець пакінуць сьлед.

Позьні вечар дасць падножку,
Рэшткі сілы забярэ,
Кіне ўпоперак на ложак,
Дзе стамлёнасць вочкі трэ.
Мне адчыніцца бясконцасьць
Затуманеных вякоў,
Дзе рукацца буду з сонцам –
Маім лепшым сябруком.

Ранкам маці будзе божкаць,
Каб сынок паспаў яшчэ –
Толькі прасігналіць кошка
Сьветлафорамі вачэй...
Успамінаў павуцінкай
Апавіты зімні сад.
Як шкада, што час дзяцінства
Не вяртаецца назад.

## Летнім ранкам

***Сыну Антосю***

Сіняя дарога
Ўдалячынь вядзе.
На прасторах родных
Абудзіўся дзень.
Мілы мой, прачніся,
Сонейка ўстае,
Пойдзем па адкрыцці
Першыя твае.

Чуеш, адплывае
Ноч, нібыта дым.
Растаюць на лузе
Зайцавы сьляды.
Вецер ніцым вербам
Гладзіць валасы,

І гучаць званочкаў
Сініх галасы.

Бачыш, сонца мячык
Прагне ў вышыню.
Елкі ў сініх лапах
Песьцяць цішыню.
І зьвініць паветра
Буславым крылом,
Разганяе зоры
Сонечным вяслом.

А туман над рэчкай
Быццам малако.
Не было такога
Ранку сто вякоў!
Мілы мой, прачніся,
Вочкі працірай,
Нас чакае працы
Непачаты край.

Будзем з траваў сонца
Долу абтрасаць
І усьмешкі лета
Шчодрыя зьбіраць.
Траў настой мядовы
Піць на цішыні,
У душы запальваць
Хараства агні.

## Родная зямля

***Уладзіміру Асокіну***

Ні канца, ні краю – сэрцу дарагая,
Родная наўкол ляжыць зямля.
Не дарэмна, мабыць, да цябе, прывабнай,

Птушкі штовясну ляцяць здаля.

Да тваіх алешын, дзе вадзіца плешча,
Гушкае, люляе берагі.
Да бароў сасновых, да палёў жытнёвых,
Поўных невыказнае тугі.

Тут страчаю раньні, пешчу спадзяваньні,
Тут вітаю лета і сьнягі.
На спакусы раю я не прамяняю
Ліпеньскія росныя лугі.

Болей і ня трэба: жыць пад зорным небам,
Хваль палеткаў бачыць пералі̆ў.
Без канца,  бяз краю — далеч дарагая,
Мой прытулак вечны на зямлі.

## Старыя Ранчыцы

Вецер-гарэза дражніцца,
Сыпле сьняжок за каўнер.
Цемрадзь у Старых Ранчыцах,
Позна сьвітае цяпер.

Зорак нябёсы поўныя
Зь неба глядзяць у мгле,
Стынуць бярозы бязмоўныя,
Сонна ўздыхае лес.

Сьнежнай пялюшкай чыстаю
Дрэвы прыкрыты і дол.
Дубу маркотна плячыстаму,
Ціха і сумна наўкол.

Крочыць кудысьці раніца,
Час не спыняе бег…

З'еду адсюль, ды Ранчыцы
Клічуць, завуць да сябе.

Я тут жыву зачараваны
Белаю песьняй сьнягоў,
Зорнай Паўночнай Каронаю,
Далямі родных лугоў.

Гаспадаром, ня парабкам
Буду заўжды я тут,
А пасля сьмерці парасткам
Ў зорны блакіт прарасту.

Будзе ружовай раніцай
Хтосьці гукаць вясну –
Дык загляніце ў Ранчыцы,
Я вам галінкай кіўну.

## Мой сум

Мой сум жыве і ў цішыні палёў,
І ў звонкіх згуках рэха над узьлесьсем,
І ў разьвітальным клічы журавоў,
І на палёх жытнёвых вольнай песьняй.

Яго нясе няспынная рака,
І рассыпаюць зоры летняй ноччу,
І тое, што я ўсё жыцьцё шукаў,
Здаецца, недзе побач ціха крочыць.

Яго ніколі я не праганю —
Усё павінна жыць прывольна ў сьвеце.
Ён адгалоскам нечага агню
Усё жыцьцё ў маё акенца сьвеціць.

## Ноч

*“Ночь тиха. Пустыня внемлет Богу,*
*И звезда с звездою говорит.”*
*М.Ю. Лермонтов*

Вузкай стужкай сьцелецца дарога,
Не дрыжаць ні дрэвы, ні кусты.
Сьпіць Зямля ў абдымках Пана Бога.
Цёпла, сонечна ў абдымках тых.

Вось зямная не рыпіць, ня хоча
Запаволіць ці прысьпешыць ход.
Дрыжыкі па цёмнай скуры ночы –
Зорак мурашыны карагод.

Запульсуе сэрцайка ў любога:
Зь неба льецца слодыч-дабрыня.
Лягу спаць зьнямелаю дарогай,
Каб дазаўтра моцай набрыняць.

## Адзінота

Сёньня гаспадарыць золкі вецер,
Замятае кволыя агні.
Ходзіць адзінота па планеце,
Хоць яе вазьмі ды прыгарні.

Нечакана вестка прыляцела –
Туліцца да ног маіх каток.
Нейчая душа тугой нясьмелай
Просіцца ласкава на парог.

Я яе ўпушчу ў цяпло хаціны,
З ёй сваю вячэру раздзялю.
Песьні адмысловыя каціныя
Вечарамі слухаць я люблю.

Нас і так жыццё ня вельмі песьціць,
Хоць сябе і цешым мы крадком,
Прыдзе час – папросімся паесьці
Да кагосьці шэранькім катком.

## Сяўба

Яшчэ сьпіць за лесам раніца,
Неба зоркамі засеяна,
Ды даўно шчыруюць Ранчыцы,
Каб да прыцемак адсеяцца.

Яшчэ сонца ўсход ня кратае,
Дзень яшчэ ў акно ня грукае -
А душа ня спіць, праклятая,
А душа баліць, пакутуе.

Не скарылася, гаротная
Не зламалася, прапашчая,
Зноў у поле кліча, родная,
Беларуса гарапашнага.

Перахрысьціцца з палёгкаю
І зь любой работай справіцца…
Разам з зоркамі далёкімі
Засынаюць мае Ранчыцы.

## Жніво

***Валеру Гайко***

Жнівеньская раніца
Адпаўзла ў цянёк.
Пакрысе займаецца
Сонечны дзянёк.

Далягляды чыстыя,
І куды ні глянь —
Нівы залацістыя,
Родная зямля.

Хустачкі, як чаіцы,
На ґаловах жней.
А сярпок сьпяшаецца,
Каласочкі жне.

З ног стамлёнасьць валіцца:
Колькі ў полі коп!
Каліўца да каліўца —
Выйдзе важкі сноп.

Сонца зыркі сподачак
Небакрай кране.
Вечар прахалодаю
Плечы ахіне.

Зорамі расшытая
Не засьне Зямля.
Будзе поле жытняе
Зь небам размаўляць.

## Першы сьнег

***Наталлі Бондар***

Зноў вярнулася восень
І па сьнежаньскіх сьцежках блукае,
І высокага зорнага неба
Няма па начах.
Абляцела лістота даўно,
І ва ўпартым адчаі
Беспрытомныя дрэвы
Зацята, трывожна маўчаць.

І на сэрцы туга:
Сэрцу першага сьнегу імгненьні –
Незабыўнае сьвята дзяцінства.
Нібы ўпершыню,
Калі падае сьнег,
Адзначае душа нараджэньне,
Кайданы прыцяжэньня ірве
І імкне ў вышыню.

Мне ня сьпіцца ўначы,
Я ўсё болей люблю адзіноту
І свайго сьнегападу імгненьні
Праспаць не магу.
Мне так важна адчуць
Сьнягавінкі малюсенькай дотык –
Пацалунак адданы
Гарачых, даверлівых губ.

Ад яго станаўлюся дужэй,
Быццам казачны волат,
Нарадзіўся нібыта
На сьвет гэты грэшны ізноў.
І, здаецца, ніколі
Ня ўпасці з каня мне дадолу,
І жыцьця мне адмерана
Добрая сотня гадоў.

І сябрам сваім блізкім
Я з радасьці гэтай гукаю:
“Да мяне вы прыходзьце,
Люблю і чакаю я вас!”
Зь неба падае сьнег,
Нараджэньне душа сустракае,
Ўваскрасаю зь ім я,
Настае сьветлых дзён маіх час.

# Апошні званок

***Аднакласнікам,***
***выпускнікам 1979 года Алексініцкай СШ***

Майскі вецярок
Бэзу тонкі пах даносіць.
У тваіх вачах сьвеціцца сьляза.
Сумна на душы,
Прабачэньня сэрца просіць,
Слоў няма такіх, каб услых сказаць.

Апошні школьны празьвініць званок,
Апошні хутка праляціць урок,
І развядзе жыццё маіх сяброў у розныя бакі.
Хачу, каб ты ўсяго дабіцца змог,
І на шляхах нязьведаных дарог
Няхай цябе сагрэе ў цяжкі час
Цяпло маёй рукі.

У вірах жыцця
Нам зямных турбот хапае,
Нам агеньчык свой трэба зьберагчы.
Хай яго сьвятло
Праз стагодзьдзі не зьнікае,
Тым, хто ў бядзе, зможа памагчы.

Апошні школьны празьвініць званок,
Апошні хутка праляціць урок,
І разьвядзе жыццё маіх сяброў у розныя бакі.
Хачу, каб ты ўсяго дабіцца змог,
І на шляхах нязьведаных дарог
Няхай цябе сагрэе ў цяжкі час
Цяпло маёй рукі.

# Апошні тыдзень года

Апошні тыдзень года
Даўно пачаў адлік.
Даволі бесклапотна
Ён крочыць па Зямлі.

Зьнямелая прырода
Чакае Новы год.
Апошні тыдзень года –
Пачатак усяго.

Сустрэч нечпадзяваных
І поўных дабрыні,
Усьмешак нечаканых,
Каханьня цеплыні.

Садоў, дзе думкі сьпеюць,
Дзе мараў хрусткіх шкло.
Маленькае надзеі
На шчасьце і цяпло.

Бясконца доўгіх вёрстаў
Зьняможаных  дарог,
Падчас занадта жорсткіх
Разбуджаных вятроў.

Зьнямелая прырода
Чакае Новы год.
Апошні тыдзень года –
Пачатак усяго.

## 24 сьнежня 2007 года

Змружыў вочы сьлепавата сьнежань,
Не разгледзіць, што там на двары.
Не, каб упрыгожыць вёску сьнегам –
Пазапальваў ранкам ліхтары.

Корпаецца прыцемкам ля хаты,
Дровы з-пад павеці ў дом нясе
І ў сваім мажоры зухавата
Каркае варонай на страсе.

Цінькне на падвоканьні сініцай,
Кінецца катком у цёплы дом.
І нясе з гарышча паляндвіцу,
Каб не размінуцца з Калядой.

## Каляднае

Ноч журботным крылом ахінула Зямлю.
Студзень спіць, як дзіця, усьміхнецца спрасонку.
Зорнай ночкай такой выйсьці ў поле люблю,
Каб за зьнічкай імклівай ляцець наўздагонкі.

Побач крапінкі зор, як рукою падаць.
Тут красуюць яны, неба дзікія ружы.
Сьпіць Зямля, быццам змучаны працай бядак,
І няма справы ёй да зімовае сьцюжы.

Як у хаце такою парой усядзець?!
Тут і сам дамасед не сьцярпіць, не стрывае:
Зор Мядзьведзіца чэрпае поўны карэц,
І на хату маю па адной выкідае.

Як люблю я агнёў пералівы ўгары!
Колькі ў небе сьвятла, сьмеху, шчасьця, прывольля!

Дружа мілы! Мільёнамі сонцаў гарыць
Зорны прысак –раздзьмутае зьнічкай вугольле.

Я пад небам жыву поўны мар і надзей,
Я сасьмяглы па цуду – далёкаму сонцу.
Я люблю цэлы сьвет, ўсіх на сьвеце людзей,
Хто ня сьпіць пад начной прыгажосьцю бясконцай.

Я жадаю Вам, людзі, каб нават удзень
Сярод хмар, сярод шэрасьці і заняпаду
Вашай зоркі сьвятло не прапала нідзе,
Каб лілося яно зь цеплынёй і спагадай.

І тады на Зямлі зьнікнуць пошасьці ўсе,
Пойдзе радасьць па сьвету шырокай ступою.
Беларусь, наша зорка, як сад расцьвіце
І пасяліцца шчасьце пад кожнай страхою.

## Мая зорка

Калі дзень свае крылы над роснай зямлёй
Ледзь складзе надвячоркам,
У захмар'і, высока над хатай маёй
Загараецца зорка.
Замірае жыцьцё ў нашай вёсцы тады,
Ноч ахутвае хаты.
А яна праз вякоў праплываючы дым
Ўніз глядзіць са спагадай.

Усьвядоміць сабе не магу аніяк,
Што мяне з ёй яднае,
І чаму яна дорыць сьвятло проста так,
Ні аб чым не пытае.
І заве за сабой у бясконцасьць, туды,
Дзе жыцьцё незямное,
Дзе чужых гарадоў уздымаецца дым,

Сьвеціць сонца чужое.

Прападае парой яна тыдзень-другі
У бязьлітасных хмарах.
Ды ўспамін пра яе, мне такі дарагі,
Абуджаецца ў марах.
Я сумую, шкадую, што я не Ікар,
І ў журбе-непакоі
Узгадаецца зоркі даверлівы твар,
Што гарыць над страхою.

Калі дзень свае крылы над роснай зямлёй
Ледзь складзе надвячоркам,
Ў захмар'і, высока над хатай маёй
Загараецца зорка.
Я чакаю ўзыходу яе над Зямлёй
Кожным вечарам ясным.
Буду жыць я, напэўна, пакуль нада мной
Тая зорка ня згасьне.

## Лятучы галандзец

Калі раптам сэрца пранізвае боль,
Напрыклад, пры ганьбе ці здрадзе,
Плыве паўз мяне і заве за сабой
Лятучы галандзец.

У зборы каманда стаіць на пастах,
У форме, пры поўным парадзе.
Хоць ведаю я, што ўсё гэта лухта –
Лятучы галандзец.

Паўсотні прапаўшых даўно маракоў,
Хто з часам ніяк ня зладзіць.
Нясе ён з сабой адгалоскі вякоў–
Лятучы галандзец.

Ім быць застаецца адно – маладымі
Навекі і ў поўным складзе.
Чаму ён імчыць паўз мяне праз гады,
Лятучы галандзец?

Якую ён вестку нясе да мяне?
Ці мо мяне кліча маці?
Ды боль сунімаецца. Быццам у сьне –
Лятучы галандзец.

Калі ж мае справы зусім будуць дрэнь,
Я не папрашу аб спагадзе.
Ён прыйдзе ў мой порт і на борт забярэ.
Лятучы галандзец…

## Роздум

Ападае лістота
Ў старым Бешанковіцкім парку.
Па таемных сьцяжынах яго
Ходзяць думкі мае.
Дзень паволі плыве па зямлі
Ў фарбах восені яркіх.
Вецер велічна мне
Свае сумныя песьні пяе.

Мне здаецца, што я
Быў ужо ў гэтым сонечным сьвеце
І кляновым лістом лістападу
З галінкі зьляцеў.
І ганяў па зямлі
Мае цела ўстрывожаны вецер,
І таптаў мае косьці
Ўсялякі, хто толькі хацеў.

З той пары мне ня хочацца жыць
Сярод прыкрасьці шэрай,
Бачыць восені сьлёзы,
Гаркоту ў вачах у людзей.
Не дае на калені зваліцца
Упартасьць і вера
Ў адраджэньне краіны маёй,
У яе сьветлы дзень.

Дачакацца б цябе,
Навальніца раптоўная ў маі,
І званочкаў на ўзьлесьсі
Пачуць залаты перазвон.
А калі да пары той
Галінка мяне не ўтрымае,
Я не буду злаваць
І кідаць у запале праклён.

Мы ня зьнікнем нідзе,
Будзем жыць у птушыным палёце,
У трывозе вятроў,
У нудзе быльнягу на мяжы,
Ў лёсах іншых людзей,
Ў бесьсьмяротнасьці кожнай істоты
Кожным словам сваім,
Кожным крокам сваім
Будзем жыць!

## Кружэлкі асеньніх лістоў

Праносяцца міма
Кружэлкі асеньніх лістоў,
Нібы пасланцы
Таямнічага іншага сьвету.
Штовосень трывожаць мне сэрца
Да болю наноў,

І я да канца сваіх дзён
Ім удзячны за гэта.

Карціць мне за імі імчаць
У блакітны прастор,
Адчуць, як сьціскаюцца грудзі
Ад лёту ў бясконцасць.
Адкінуць зямныя аковы,
Узняцца да зор,
Абняць свайго блізкага сябра, —
Далёкае сонца.

Мне наша каханьне
Душу саграває штодня,
Імкне ў вышыню за сабой
І ня зычыць спакою.
І хочацца зноў
Неабсяжнасьць прастораў абняць,
Ўвесь сьвет упрыгожыць
Шчасьлівай усьмешкай тваёю.

## Калі...

Калі ледзякі,
Пазіраючы з дахаў,
Разумеюць,
Што іхнія справы — труба,
Калі зоркі
Зрываюцца зь неба ад жаху,
Спужаўшыся брэху
Вясковых сабак,

Калі сонцам становіцца
Кожная лужына,
І струменіць праз край
Чаравікаў адчай,

Калі ўсе мужыкі,
Як авечкі заблудныя,
Гіпназаваны
Выглядам ног у дзяўчат,

Калі сэрца ад шэрасьці
Больш не маркоціцца,
Атрымаўшы
Блакіту адрэналін,
Нават дзед стогадовы
З печкі ўніз скоціцца,
Каб напоем вясны
Галаву захмяліць.

## Сьняжынка

Аднекуль
З-пад нахмураных нябёс,
Дзе сонца топча
Сярод зор сьцяжынкі,
Мне вецер
Растрывожаны прынёс
Маленькую замерзлую
Сьняжынку.

Яна прысела
На маё плячо
Спалохана
І неяк сарамліва.
А потым,
Як гарэза-светлячок,
Усьмешкай заіскрылася
Шчасьлівай.

Я столькі год
Чакаў прылёт яе,

Ледзь сам ня стаў
Халоднаю ільдзінаю…
На шчасьце,
Ты на сьвеце існуеш.
Гармонія і прыгажосць –
Адзіныя.

## Першае каханьне

***Кацярыне М***

Першае каханьне... Дзе яно,
За якой схавалася завеяй?
Ты чаму прыходзіш зноў і зноў,
Калі ў небе зоры палымнеюць?
Першага каханьня горкі дым, –
Быццам зьнічка ўспыхвае нясьмела.
Кінуся за ім – адны сьляды
Ў завірусе прападаюць белай.

Ты не ўцякай, у маё акенца зазірні,
Хоць тут даўным-даўно патушаны агні,
Хоць тут даўным-даўно ніхто ўжо не жыве,
Апрача зьмярканьня.
Ты абудзі мяне ад холаду і сну,
Ты закрані маю балючую струну,
Дазволь душы сустрэць маленькую вясну
Першага спатканьня.

Першае каханьне... У цішы
Музыкай узьнёслай, непаўторнай
Голас растрывожанай душы
Зноў гучыць высока, непакорна.
Думкі мітусяцца. Ў галаве
Горыч палыновага напою…
Мо і ты таксама мной жывеш
Столькі год, як я жыву табою?

# Я цябе разьлюблю

Я цябе разьлюблю
І забуду, раз – і назаўжды!
Больш ня буду званіць,
Калі нават і вельмі сумую.
Колькі можна глытаць
Разьвітаньняў задушлівы дым,
Сьніць цябе па начах,
Недасяжную і дарагую?!

Разьлюбіць - разьлюблю…
Толькі сэрца марозам кране,
А душа занямее,
На Шлях адлятаючы Млечны,
Калі здасца хвілінай,
Што ты не кахаеш мяне,
Калі нешта падкажа,
Што я цябе страціў навечна.

# Дзень

Дзень крынічнай вадой
Зіхаціць-серабрыцца.
За глыточак адзін
Аддасі паўжыцьця!
Як маланкі, ўзахлёб
Б'юць руччоў бліскавіцы,
І абцасікаў гром
Ажыўляе абсяг.

Яго сонечны сьмех
Без гарэлкі захмеліць
І на самае неба,
Да зорак шпурне,
Дзе ў імклівым палёце

Вясновых арэляў
Сутыкне выпадкова
Цябе і мяне.

Нас дарма выпрабоўвалі
З зайздрасьцю лютай,
Дні дрымоты глухой,
Холад мёртвых нябёс.
Недзе ўнізе застаўся
Пакрыўджаны смутак,
І гарэзьліва нам
Усьміхаецца лёс.

## Я – застануся!

Мне аднолькава цяжка бываць
І з табою, і без.
Я знікаю з вачэй
І вяртаюся зноў, каб укленьчыць.
Да сьняжынак раўную,
Якія цалуюць цябе,
І зайздрошчу вятрам,
Што цябе абдымаюць за плечы.

А самому так хочацца
Дотык нябёсаў адчуць!
А калі вышыня
На арбіце жыцця не ўтрымае,
Белым сьнегам у сьнежні
Да ног тваіх я прылячу,
Тваіх вуснаў крануся
Ружовым пялёсткам у маі.

І бязважкай хмурынкай
Прысяду на твой парасон,
Аскалёпкам блакіту

Праз шэрань нябёсаў прарвуся.
На самотнай Зямлі
Да канца маіх сонечных дзён
Кропляй сьветлай пяшчоты
На веях вясны застануся.

## Ты ~ ёсць!

Мне - сьвята,
Калі ты насустрач крочыш,
І сэрца бег
Ня хоча ўтаймаваць.
Сумую,
Калі сьняцца твае вочы,
А я іх не магу
Расцалаваць.

П'янею ўмомант,
Як цябе страчаю:
Ты поўніш сьвет
Сваім жывым цяплом,
І цьверазею
Без цябе ў адчаі,
Калі ня сьвеціць
Вокнамі твой дом.

Я не хачу
З табою расставацца,
Бо прагну я
Пяшчоты і цяпла,
І не магу
З табою заставацца,
Бо сьлепну
Ад нясьцерпнага сьвятла.

Мне – шчасьцем

Даганяць імклівы вецер
І піць нябёсаў вечных
Прыгажосьць
І ведаць, што ты –
Ёсць на белым сьвеце.
Галоўнае,
Што ты на сьвеце -
Ёсць!!!

## Чаму?..

Здаецца, Вы – заўжды са мною.
Чаго ж яшчэ ў жыцці патрэбна?
Чаму ж шчымліваю тугою
Мне плача восеньскае неба?

Я быў бы ў неўтаймоўным сьвеце
І ўдалы самы, і шчасьлівы…
Чаму ж цалуе толькі вецер
Два курганкі грудзей пужлівых?

Вас, пэўна, Бог ствараў ў адчаі
Каб Вамі любавацца ўпотай,
Чакаць халоднымі начамі
І Вашай сьніць рукі пяшчоту.

## Я страчаю зорны дождж

Я страчаю зорны дождж,
Што імжыць з начных нябёсаў.
Назьбіраю цэлы кош
Зорак у сьцюдзёных росах.

Прыляцелі на Зямлю,
Дух узняць наш непакорны.
Іх з далонькі падкармлю,

Каб ніводнай не памёрла.

Як шкада, што я ня Бог,
Я б да любай, да каханай
Лёгкай зьнічкаю да ног
Апусціўся б нечакана,

Піў з яе далоняў ноч
У агні чароўным сьвечкі.
Праз халодны зорны дождж
Адляцеў бы проста ў вечнасць.

## Мая малітва

Заслані яе, лёс,
Ад бяды,
Дай надзею
На лепшую долю.
Не шкадуй
Коўш крынічнай вады
І дарэмна
Ня крыўдзі ніколі.

Калі выпадзе
Здрадніцкі міг —
Каб было ёй за што
Ухапіцца.
На шляхах,
На сьцяжынках тваіх
Не дазволь ёй адной
Заблудзіцца.

## Як цябе палюбіць...

Як цябе палюбіць,
Калі ты, як сьцюдзёнае неба,

На мяне пазіраеш
Праз вокны сьвінцовыя хмар.
Памірае каханьне,
Калі ты гаворыш: "Ня трэба
Мне тваіх пацалункаў,"
І я цьверазею ад чар.

Саграваю дыханьнем
Халодныя зорныя ночы.
Я ня проста ў маркоце –
Надзею б сваю зберагчы!
Памірае яна,
Калі ты сустракацца ня хочаш.
Каб пакрыўдзіць мяне,
Маеш добрую сотню прычын:

Не глядзіш у мой бок
І ніколі сама не пазвоніш,
А на радасць сустрэчы –
Маўчаньне марознай травы.
Памірае каханьне,
Калі ты мяне і ня гоніш,
Ды кідаеш знарок
Пры размове халоднае "Вы".

Як цябе палюбіць,
Калі ты замярзаеш і хлусіш,
І сагрэць не даеш сваё сэрца,
Што стыне ў журбе?
Ты дарэмна ўсё робіш,
Бо я й з таго сьвету вярнуся,
Каб яшчэ раз сказаць,
Што ўсё роўна кахаю цябе.

# Жаданьне

Праз тысячы вёрстаў расстаньняў,
Праз холад касьмічны адносін,
Праз радасць і роспач каханьня,
Праз лета, зіму, або восень,
Праз вечнага неба бязважкасць,
Праз пэўнасць Зямлі цягаценьня,
Праз тое, што стала няважным,
І тое, што мае значэньне,
Што доўга яшчэ будзе сьніцца,
Што нельга закрэсьліць ці сьцерці,
Прайсьці, да цябе прытуліцца,
У вочы зірнуць, і — памерці.

# Успаміны

Адным
Іх успаміны —быццам дым.
Другім яны –
Пакутлівыя мукі.
А мне цяплей
Ад успамінаў тых,
Дзе мы ўдваіх,
Дзе размаўляюць рукі.

Твае далоні
Да грудзей тулю,
І сэрца ажывае
Ад здранцьвеньня.
Я б змог цяпер
Сагрэць усю Зямлю,
Калі б гразіла ёй
Абледзяненьне.

Ад зорнага сьвятла
Вачэй тваіх
Душа мая трымціць,
Як павуцінка…
Жыве адно імгненьне,
Толькі міг,
Ўспамінаў
Палахлівая хмурынка.

Сплывае, адлятае,
Быццам дым.
Я ж застаюся
Ў іх чароўнай ўладзе.
Яны мяне
Ахоўваюць заўжды
І не даюць
Хіснуцца,
Схібіць,
Здрадзіць.

## Астры

Асеньняга сонца праменьчык
Наведаў мяне
І свой пацалунак пакінуў
Няўлоўны, зіркасты.
Мяне ж яго вуснаў цяпло
Успамінам кране
Пра даўнюю восень,
Пра сумныя сінія астры.

Яны мне прынесьлі
Пачуцьце няўлоўнай тугі,
Аднекуль зь нябыту
Вярнулі агеньчык надзеі.
Нібы да тваіх дакрануўся

Плячэй дарагіх,
Нібы, як калісьці,
Цалую дрыжачыя веі.

Асеньні праменьчык
Іх гладзіць рукою сваёй
І нешта ім шэпча
Такое пяшчотнае, з жалем.
І зноў усплываюць
Чароўныя рысы твае,
І смутку, і болю
Душу апаноўваюць хвалі.

Яшчэ не сьпявала
Тужлівыя песьні зіма,
Наперадзе недзе
Ласкавае бабіна лета.
Эх, сініх пялёсткаў
Надзеі дурманлівы зман!
Чаму ты вяртаешся,
Думкай крамольнай сагрэты?

З трывогай у сэрцы
Блукаю, іду наўздагад
Праз ціхі адчай адзіноты,
Сумёты завеяў.
Я кожную восень
Вяртаюся ў наш лістапад,
Дзе сінія астры
Дарылі сустрэчаў надзею.

# Пах чаромхі

Калі мы страчаліся з табою,
Плыў чаромхі водар над ракою.
Зорны карагод у небе ноччу,

Нібы зоры зьзялі твае вочы.

Вечар звонкі,
Зор вясновых гронкі,
Галаву кружыў нам пах чаромхі.

Я даўно забыўся пра спатканьні,
Ды пазвала рэчка на сьвітаньні.
Сьнегапад чаромхі лёг на плечы,
Нагадаў пра даўнія сустрэчы.

Ранак звонкі,
Зор вясновых гронкі,
Не дае заснуць мне пах чаромхі.

Да цябе памчуся з усіх ног я,
Прагаю пакуту-адзіноту,
Растаплю лядок у сэрцы крохкі,
Прынясу з сабою пах чаромхі.

Сьвеціць тонкі,
Месяц ў небе звонкім,
І нясе да зор нас пах чаромхі.

## У лесе

Лес туманіцца пад сонцам.
Можна тут блукаць бясконца,
І прыгожанькай сасонцы
У каханьні прызнавацца,
І падслухаць, як асінка
Ціха шэпчацца з рабінкай,
І з калючаю ялінкай
Абдымацца-мілавацца.

І пазвоньваць у званочкі,
І прысесьці на пянёчку,
І лясным рамонкам вочкі
Залатыя цалаваць.
І закінуць на хмурынку
Свае справы на часінку,
Шчасьця каб яшчэ іскрынку!..
Толькі дзе ж яго шукаць?

Раптам на сцяжынцы крокі.
(Ці прымроілася трохі?)
Бачу тварык сінявокі
І вяночак з васількоў.
Гэта, пэўна, будзе фея,
Калі штось я разумею.
Закаханы безнадзейна
Я за ёй ісьці гатоў.

Я шукаю тут вякамі
Кветку-папараць ў тумане,
Цёмнай поўначчу да раньня,
На зямлі і паміж зор.
І хаджу па звонкім лесе,
Поўным музыкі і песень,
Пакуль месяц з сонцам сьвеціць,
Усяму наперакор.

Лес туманіцца пад сонцам.
Можна тут блукаць бясконца,
І прыгожанькай сасонцы
У каханьні прызнавацца,
І падслухаць, як асінка
Ціха шэпчацца з рабінкай,
І з калючаю ялінкай
Абдымацца-мілавацца.

## 18 лютага 2006 года

І заўтра,
І гадоў праз 10 - 20
Я ўспомню гэты дзень,
Як небыццё.
Ён будзе мне
Пяшчотай усьміхацца
І саграваць на холадзе
Жыцьцём.

Хоць сонца
Не глядзела з-пад аблокаў,
Ня лашчыла
Ў абдымках залатых,
Іскрыўся шчасьцем сьвет,
Як кінуць вокам:
У ім жыло
Маё каханьне –
Ты.

## Ганначка~Ганна

Кожны шукае лепшае долі,
Толькі не ведае ён аніколі,
Дзе з ёй сустрэцца наканавана …
–“Як Вас завуць, сінявокая?”
–“Ганнай.”
–“Ганначка?” –“Ганна.”
–“Ганначка?!” –“Ганна!”
Ўсё адбылося так нечакана.

Вочы яе, нібы ясныя зоры,
Сьняцца, начамі са мною гавораць.
І супыняецца сэрца ў адчаі:
Як у каханьні прызнацца – ня знаю.

Ганначка-Ганна,
Ганначка-Ганна…
Ные ў грудзях незагойная рана.

Цяжка было нават дзень перажыць мне.
Неяк сьцяжынка зьвяла нас у жыцьце.
Зоры нам песьні да ранку сьпявалі…
Нашу дачку мы Ганнулькай назвалі.
Ганначка-Ганна,
Ганначка-Ганна –
Лёсу майго нечаканы сьвітанак.

## Я сустрэў твае вочы

Я сустрэў твае вочы–
Азёры з жывою вадою
І застыў, нібы вочап,
Уражаны іх глыбінёю.

А імя распазнаў, што ад зор,
Па дрыжачым цяпельцы.
Ім сябе саграваў,
І адтайвала зьмерзлае сэрца.

Я нясьмела кранаў твае плечы
Бярозкі-падлетка,
І намерваўся зьбегчы:
Баяўся патрапіць у клетку.

Ды адкрыліся  вусны –
Крынічка пяшчоты тужлівай…
Вось стаю, быццам вучань,
Гляджу на цябе палахліва.

І плыве сьветлы сум,
Чырванеюць сузор'і рабіны…

Я стварыў цябе ўсю,
А сябе назаўсёды згубіў я.

## Багіня

Сярод мноства Багінь
Ты – Багіня каханьня майго,
І тваёй незямной прыгажосьці
Жанчыны зайздросьцяць.
Я ж – звычайны сьмяротны,
Якіх незьлічона кругом.
А таму нам спаткацца на сьвеце
Было так ня проста.

Ты – Багіня каханьня майго,
Я ж – рамесьнік, ня Бог.
За маё сьвятатацтва
На Страшным судзе адкажу я:
Я цябе намалюю такой,
Каб ніводзін ня змог
Твой адрозьніць партрэт ад цябе,
О, мая прыгажуня!

## Маёй зорцы

*“Среди миров, в мерцании светил*
*Одной звезды я повторяю имя...*
*Не потому, чтоб я Её любил,*
*А потому, что я томлюсь с другими.»*
*И. Анненский*

Сярод усіх сузор’яў і планет
Люблю маленькай зоркі погляд сіні.
І не таму, што з Ёй цяплее сьвет,
Мне проста надта холадна з другімі.

Сьвятло Яе трывожнае лаўлю,
Чакаю з Ёй сустрэчы кожны вечар.
І не таму, што іншых не люблю,
Мне проста з Ёю лепш, чым зь кім на сьвеце.

Назваць я не магу Яе сваёй,
Праводзіць не адважуся дадому.
Мне, ведаю, ня быць ніколі з Ёй,
Ды з сэрца не аддам Яе нікому.

## Сон

Сон прысеў на плячы,
А чамусьці ня спіцца,
І плыве ў галаве
Думак рой-каламуць...
Ў зарападнай начы
Мне б з табой заблудзіцца,
Так няўтульна стаяць
Паміж зор аднаму.

Трапяткім светлячком
Ці далёкай зарніцай
Ў твае сны-летуценьні
На міг залятаць.
Да дыханьня твайго
Птушанём прытуліцца
І пяшчоту яго
Па глытку адпіваць.

Стаць палонным тваім,
Стаць тваёй таямніцай,
Стаць бяздомным зусім,
Як пад плотам трава.
У табе назаўжды
Без слядоў растварыцца

І пра тое ніколечкі
Не шкадаваць.

Сон прысеў на плячы…

## Трымай мяне, мой лёс

Трымай мяне, мой лёс,
Не спакушай,
Ня зблытвай сьцежкі праведныя
Дбайна,
Пакуль яшчэ ў грудзях
Жыве душа,
Ірвецца сэрца вонкі
Так адчайна.

Дурненькае,
Ня хочаш лёгка жыць.
Ня ведаеш, гаротнае,
Няйначай,
Што нам наканавана –
Мусіць быць,
І жорсткі свет
Нічым не перайначыш.

Ды колькі будзе
Касьнічком зары
Гарэць твой шаль –
Я да яго прыкуты.
І сэрца
Ў неразважлівы парыў
Зноў кінецца,
Напоўніцца пакутай.

****

***Ганне Грыневіч***

Мы па вуліцах сьцішаных крочым,
Ловім позіркі зор залатых.
Ды мілей мне за позіркі іх
Твае сінія-сінія вочы.

Зоры моўчкі дрыжаць ў паднябесьсі,
Час, здаецца, за поўнач ужо.
Мы далёка цяпер за мяжой
Хваляваньняў студэнцкіх і песень.

Разьвітаньня пара настае.
Колькі горычы, колькі болю.
Мы маўклівыя крочым паволі,
Я сьціскаю далоні твае.

Дзе б якая ні выпала доля,
Колькі б часу з тых пор ні прайшло,
Тых маленькіх далоняў цяпло
Не забыць мне ніколі-ніколі.

## Незнаёмка

Сустракаю цябе, як іду на работу.
Засьпявае душа, і на сэрцы пажар.
Я ня ведаю нават адкуль ты і хто ты,
Не страчаліся мы, незнаёмка, на жаль.

Усьміхаецца сонца, калі ты шыбуеш,
Азіраюцца ўслед на цябе мінакі.
Я б табе падарыў зорку зь неба – любую,
Ды ці возьмеш ты мой падарунак такі?

Калі цемра наўкол, твой анёл прылятае.
І лагода цяплом пранікае ў нутро.

Я ня бачу цябе, дзе жывеш ты — ня знаю,
Ды тваё існаваньне расьсейвае змрок.

Прызнавацца ў каханьні адразу – няёмка.
Для цябе я — ніхто, ветру вольны павеў.
Ты даўно ў маім сэрцы жывеш, незнаёмка,
Ты прабач, што сустрэцца з табой не пасьпеў.

# Лянцуг элактрычнасьці

**_Ганне Д_**

Да цябе падысьці на крок
Нябяспечна — ты б'ешся токам.
Я сабе ўжо даваў зарок,
Не глядзець выпадкова ў бок твой.

Але профіль убачу твой –
Усьміхаецца сьвет бясконцы:
Пяць хвілінак пабыць з табой,
Што на майскім пагрэцца сонцы.

Ты ж сама, мне казалі сябры,
Закахалася ў нейкага Ома,
І цяпер з гэтым дзіўным старым
Шпацыруеш у нас ля дома.

Я лаўлю твой шчаслівы сьмех,
Ды надзеі ніяк не губляю.
Ты штурхаеш мяне на грэх,
Хоць яго і даруеш, знаю.

Калі сон ахіне зямлю,
І аслабне твой ток ад стомы,
У абдымкі цябе я злаўлю,
Хай шалеюць ад зайздрасьці Омы.

Сэрца раптам прыпыніць стук,
І абрынецца сьвет цунамі:
Пацалункам замкнецца лянцуг
Эляктрычнасьці паміж намі.

## Спатканьне

Ад званка да званка,
Як ад зор да Зямлі.
У зьнямелай цішы
Роспач грукае ў дзьверы.
Сёньня Вы нечакана
У госьці зайшлі,
Ды ня стала цяплей
У халоднай кватэры.

Наша стрэча–спатканьне –
Нямое кіно.
І няма рэжысёра,
Каб сцэну агучыць.
Вы жылі тут, калісьці
Даволі даўно.
Помняць сьцены старыя
Ваш сьпеў мілагучны.

Помніць стол парудзелы
Пра фота на ім…
Сапраўды былі жарсьці
Ў мінулым стагодзьдзі!
І зьнікае усьмешка,
І твар, быццам дым.
Так, усё на Зямлі
Пакрысе адыходзіць.

***

Мне падабаецца, калі
Яшчэ далёка да сьвітанку,
А Млечны шлях вісіць над ганкам,
Абпёршыся аб край Зямлі.

І хараство нямое зор
Упарта вабіць у абдымкі,
Нібы каханая на здымку,
Хаця ў вачах яе дакор.

Але цяплее твой пагляд,
Калі сустрэнемся няўзнакі.
Назло прагнозам задыяка,
За нейкі тыдзень да Каляд.

## Я малюю цябе

***Ірыне В***

Калі цяжка,
Нідзе не знайсьці суцяшэньня,
І нямее душа
Ў безвыходнай журбе,
Я малюю цябе
У сваім уяўленьні,
Нібы сонейка ўсход
Я малюю цябе.

Паўстае з забыцьця
Дарагое аблічча.
Твае вочы і вусны
Цалую ў мальбе
І чакаю, што ты
Мне пазвоніш, паклічаш,
І я зноў палячу
Да адзінай цябе.

І хоць дорыць нам лёс
Халады і расстаньні,
Сум асеньніх палёў,
Птушак крык у жальбе,
Ды мяне сагравае
Пяшчота каханьня.
Я малюю цябе –
Я кахаю цябе.

## Халады

Лепш адразу памерці,
Чым жыццё ў паняверцы,
Так нядоўга дайсьці да бяды.
Налеглі халады
Абручамі на сэрца,
Замятае расстаньня сляды.

Сонца ўчора сьвяціла,
Так было люба-міла,
Ды засьнежыла раптам зіма.
Каб давер'е прапала,
Неабходна так мала:
Зьледзянелага слова падман.

І ў прыродзе бывае
Часта холад у маі,
Калі ў кветках буяюць сады.
Ды аб сумным ня будзем.
Будзьце пільнымі, людзі,
Не ўпускайце ў душу халады.

# Мне здалося...

Мне здалося, што ты
Ў гэтым горадзе тлумным,
Дзе сум б'е цераз край, -
Уладарка маіх
Сноў нязбытных і думак,
Мой страчаны рай.

Твой прытулак знайшоў
Вельмі хутка на дзіва,
Шостым я пачуцьцём.
Да цябе завітаў
Толькі на паўгадзінкі,
А застаўся на ўсё жыцьцё.

# Я не хачу

Я не хачу, каб на аблічны мілым
Быў сум, які як нож у сэрца мне.
Я не хачу, каб ты яго тапіла
У моры недаверу ці ў віне.

Я не хачу, каб светлячок надзеі
Да часу згас ў гарэзьлівых вачах,
Я не хачу, каб розныя зладзеі
Яго сьвятло лавілі па начах.

Я не хачу, каб па дарозе гразкай
Насустрач лёсу ты ішла адна,
Каб ты жыла па нейчае падказцы
І бачыла мяне выключна ў снах.

Дапамажы, усемагутны Божа,
Пазьбегнуць ёй няшчасьця завірух.
Карай мяне лепш за праступак кожны,
Яе ж ня крыўдзі, зьлітуйся, даруй.

# Чарнабровая

Выйду ўраньні па вадзіцу ад дому я,
Калі птушка свае вочкі ня трэ.
Ля крынічанькі дзяўчына знаёмая
Чарадзейную вадзіцу бярэ.

Пагамонім мы пра справы калгасныя:
Пра надвор'е, пра гарод, пра пакос.
Ой, дзяўчыначка мая, сонца яснае,
Я б з ахвотай твае вёдры паднёс!

Сінявокая мая, чарнабровая,
Мне ж за сорак, табе менш удвая.
А таму свае спыняю размовы я –
Прыгажуня ты, на жаль, не мая.

Ды аднойчы ўсё ж бяда надарылася...
Быў густы туман, нібы малако.
Ля крынічкі яна зноў прыпынілася.
Як звычайна, я павёў пра пакос.

Яна ж вуснамі, бы вішнямі сьпелымі,
Нахілілася і – цмок мяне ў нос.
Нібы слуп стаю, гляджу ашалела я,
Яна ж просіць, каб я вёдры паднёс!

Прыгажуня ты, мая чарнабровая,
Ўспамінаецца цяпер праз гады
Той туман, што столькі часу захоўвае
Таямніцу крынічнай вады.

# Пустазельле

У мяне на агародзе
Парасла трава так густа,

Што, баюся я, ня ўродзіць
Мая морква і капуста.
Я хаджу цяпер самотны
І ня ведаю спакою.
Вось даліся мне турботы
З той травою!

Можа, дні са два я біўся
З пустазельлем не на жарты.
Ну, а потым пагадзіўся,
Што яго мне рваць ня варта,
Бо яно ўжо зацьвітае,
Мае пах такі мядовы,
Што ў гарод мой паглядаюць
І дзяўчаты, і удовы.

Дык няўжо ж ня гляне тая,
Погляд чый даўно вартую?!
Пустазельле адцьвітае,
Спаць спакойна не магу я.
Яна ж ходзіць і сьмяецца,
І мяне не заўважае,
Аб маім зялёным горы
Не пытае…

У мяне на агародзе
Парасла трава так густа,
Што, баюся я, ня ўродзіць
Мая морква і капуста.
Я хаджу цяпер самотны
І ня ведаю спакою.
Падкажыце, што рабіць мне
З той травою?

# Раманс

Я не магу Вам шчасьця абяцаць,
Бо часта сам зь бяды шукаю выйсьця.
Сваё я сэрца Вам гатоў аддаць –
Ды Ваша праўда: што зь яго карысьці?

Я буду Вас усё жыцьцё чакаць,
Хоць лёс вядзе нас рознымі дарогамі.
Я кожны ўздых за Вас гатоў аддаць,
Ды марна ўсё, па Вас ўздыхаюць многія.

Я Вас сустрэну – зноў ня буду спаць,
Бо розум з сэрцам давідна спрачаюцца.
Даводзіць розум: "Нельга так кахаць!"
А з сэрца: "А інакш – не атрымаецца."

# Я Вас сустрэў

*Я встретил Вас и всё былое*
*В отжившем сердце ожило…*
*Ф. Тютчев*

Мы стрэліся – і ў сэрцы ціха
Ўваскрэсьлі гукі даўніны.
Так, нашай памяці ўласьціва
Вяртаць нас у юнацтва сны.

Так восеньню халоднай, позьняй
Прыходзіць сонейка падчас:
Дыхне вясной над голай пожняй—
Абудзіць дарагое ў нас.

І я ў юнацкім летуценьні
Каторы дзень ужо хаджу,
З даўно забытым захапленьнем
На рысы мілыя гляджу.

Сплываюць з сэрца рэшткі лёду.
Я бачу Вас нібыта ў сне.
Вада ламае перашкоды,
Іграе музыка ўва мне.

Нібы на золку росным раньнем
Стаю зачараваны я.
І сэрца поўніцца каханьнем,
І ўвысь ляціць душа мая.

## Калі ўсьміхаюцца вочы

Чароўныя рысы
Тваёй прыгажосьці
Нагадваюць мне
Непаўторнае штосьці.
І сёньня я буду
Ня спаць да сьвітаньня:
Чароўныя гукі каханьня
Закружаць у вальсе ўспамінаў,
Напояць атрутай язьміннай.
І зробяць шчасьлівым
Ў бяссонныя ночы
Твае зіхатлівыя вочы.

## Бывае...

Бывае, на сэрцы – пустэча.
Жыцьцё. Тут нічога ня зробіш.
І вось – выпадковая стрэча,
Вачэй сваіх ты не адводзіш.

Я, можа, ня надта і сьмела,
Аб нечым нязначным спытаю.
А сонца з-за хмараў зазьзяе.
Вы скажаце, так не бывае?

Бывае, што сэрца сустрэча кране,
Гарэзны агеньчык цябе не міне.
Такое здаралася, пэўна, ня раз і з вамі.
Ўвесь сьвет усьміхнецца адразу ярчэй
І жыць больш ня можаш бяз любых вачэй,
Як толькі жылі паасобку – ня ведаем самі.

І будзе каханьня сьвята,
Адступяць слата і холад.
Захочацца зоркі пакратаць,
Забыцца пра ўсё благое.

І помніць у момант кожны
Сьвятло ад усьмешкі мілай,
І жыць, нібы ў раз апошні,
Кахаць, колькі хопіць сілы.

## Неадасланы ліст

Я цяпер ня ведаю спакою:
Дзе з табой сустрэцца і калі?
Там, дзе палахліва за ракою
Зоркі ледзь прыкметныя ўзышлі?

Там наш белы бусел доўга кружыць
Над пустой бусьлянкаю сваёй.
Ён маўкліва ў сінім небе тужыць,
Цэлы дзень лунаючы над ёй.

Зноў цябе ў думках абдымаю,
Сэрца захлынаецца ў журбе.
І ў руках каторы раз трымаю
Ліст, неадасланы да цябе.

# ПЕРАКЛАДЫ З УЛАДЗІМІРА ВЫСОЦКАГА

## *Белая маўклівасьць*

Ўсе гады і вякі, і эпохі быцьця
Да цяпла ўсё імкнецца ад злых завірух.
Дык чаму ж тыя птушкі на поўнач ляцяць,
За палярны далёка сягаючы круг?

Их пакліча свитанак шыпшынавы,
А калі пад крылом зьнікне лёд,
Ім кароткае шчасьце птушынае –
Падарункам за сьмелы палёт.

Ну, а нас хто зманіў чысьцінёю зімы,
Што памчаліся птушкам наіўным усьлед?
Зьзяньня поўначы так і ня ўбачылі мы,
Сьпіць у вечных ільдах яго велічны сьлед.

Цішыня. Стрэлы чаек імклівыя.
Кормім іх мы пустэчаю з рук,
Ды адплатай за мілі маўклівыя
Будзе абавязкова гук.

Столькі дзён сьняцца нам толькі белыя сны—
А другія адценьні занесьлі сьнягі.
І асьлепнулі мы ад такой чысьціні,
Вернем зрок, калі ўбачым свае берагі.

І ад глотак адхлыне маўчаньне нам
Зьнікне слабасьць, растане, як цень.
І адзьдзякай за ночы адчайныя
Стане вечны палярны дзень.

Поўнач – межаў няма, і куды ні зірні
Сьнег бяз бруду, аж вочы баляць, хоць крычы.

Крумкачам іх не выдзеўбаць з нашых вачніц,
Бо на гэтай зямлі не жывуць крумкачы.

Хто ня верыў наіўным прароцтвам і
Спачываць у сьнягі не залёг,
Ўзнагародаю за адзіноцтва ім
Блісьне бераг, як сьцяг перамог!

******

Тут лапы ялін цягнуць рукі праз дым,
Тут птушкі крычаць беспрычынна.
Жывеш ў зачарованым лесе сваім,
Адкуль уцячы немагчыма.

Няхай бельлю чаромха пужае зару,
Аблятаюць дажджом кветкі бэзу.
Ды ўсё-роўна адсюль я цябе забяру,
Бо патрэбна ты мне да зарэзу.

Твой сьвет з ведзьмакамі — сьвядомы падман,
Няпроста ў ім жыць нават летам.
Табе ж падаецца – цудоўней няма,
Чым лес зачарованы гэты.

Калі гольле бяроз скіне сон раніцой,
Калі месяц зьняможацца хворы,
Я прыеду таемна сюды за табой,
Каб забраць ў сьветлы церам за мора.

Няхай дзіка плача ў падлеску лясун
І цені бягуць па лагчынах.
Калі я цябе на руках панясу,
Мне лес свае дзьверы адчыніць.

Тваe вусны усьмешкаю лёгкай кране,
Ты стрымаешся, каб не сьмяяцца.

“Пагаджайся на рай у лясным будане,
Пачакаюць за морам палацы! “

## Песьня аб зорках

Ў гэтым баі вораг лез напралом,
Пляжыў усё без разбору.
Па небасьхілу ж халодным дажджом
Падалі зоры.

Зноў паляцела – і я загадаў
Выйсьці жывым з сутычкі.
Так неабачліва лёс свой зьвязаў
Я з тою зьнічкай.

Мне падалося – сьмерць абміне,
Час не прабіў памерці.
Раптам шалёная скочыла мне
Зорка пад сэрца…

Трасеры рэзалі ноч давідна,
Кроў залівала гоні.
Зорка яшчэ паляцела аднак –
Вам – на пагоны.

Падаюць зь неба, як феерверк,
Хопіць на ўсіх, нават з ґакам.
Каб не забіла, насіў бы цяпер
Зорку на фраку.

Я б тую Зорку даў патрымаць
Сыну – на шчасьце.
Толькі вісіць яна ў небе дарма –
Некуды ўпасьці.

# Ён не вярнуўся з заданьня

Ўсё ня так, а здаецца, усё, як заўжды:
Той жа дзень у блакітным тумане,
Тыя жа лес і паветра, і плёскат вады —
Толькі ён не вярнуўся з заданьня.

З ім ніколі ўначы не хацелася спаць,
Мы спрачаліся зь ім да сьвітаньня.
Мне цяпер яго толькі не стала хапаць,
Калі ён не вярнуўся з заданьня.

Не да месца маўчаў ён, ня ў такт падпяваў,
Не любіў гаварыць пра каханьне.
Сумаваць не даваў, сам на золку ўставаў,
А цяпер – не вярнуўся з заданьня.

Голле стукне ў вакно – мне здаецца, што ён,
Я дагэтуль чакаю вяртаньня.
Для мяне нібы ветрам задзьмула агонь,
Калі ён не вярнуўся з заданьня.

Зноў вясна, так, што хочацца неба абняць.
Я змагацца з пачуцьцем ня ў стане.
“Слухай, дай прыпаліць!” — а ў адказ цішыня…
Сябра мой не вярнуўся з заданьня.

Нашы мёртвыя нас не пакінуць ў бядзе,
Яны вартай нябачнай паўстануць…
Адбіваецца лес у блакітнай вадзе,
Дрэў шыхты, быццам сінія здані.

Нам і месца ў зямлянцы хапала адной.
Усьміхалася двум гэта раньне.
Ўсё цяпер — аднаму. Ды здаецца парой,
Гэта я не вярнуўся з заданьня.

# Райскія яблыкі

Я калісьці памру. Калі-небудзь усе паміраюць.
Вось яшчэ б падгадаць, каб не сам, каб у сэрца нажом:
У забітых душа, без сумневу, суцешыцца раем.
Не скажу пра жывых, а нябожчыкаў мы беражом.

Тварам грымнуся ў твань і набок завалюся, аслаблы,
Ірванецца душа мая зь месца ў шалёны галоп,
У дзівосных садах набяру зь лёгкай чырванью яблык.
Ды вартуюць сады і страляюць бяз промаху ў лоб.

Даскакалі – гляджу – на вачах адбываецца драма,
Белы сьвет ад стварэньня такога ня бачыў нідзе:
На бясконцай пустэчы ўзвышалася нейкая брама,
І вялізны этап –тысяч з пяць – на каленях сядзеў.

Як заржэ караньнік! Сьціхамірыў я словам ласкавым,
З грывы  вырваў дзяды, прычасаў гладкі шоўк валасоў.
Дзед дарэшты сівы доўга поркаўся каля завалы
І крахтаў, і бурчэў, ды ня змог адчыніць і пайшоў.

Змардаваны народ не азваўся ні крыкам, ні стогнам –
Са здранцьвелых каленяў на кукішкі ён перасеў.
Тут маліна, сябры, нас вітаюць малінавым звонам!
Час па крузе ідзе, і над кругам расьпяты вісеў.

Вам даброты давай, ды за іх я ня біўся б заядла.
Мне б – сяброў: колькі шчырых сьлязін на магілу  лягло б! –
Мне для іх цяпер трэба нарваць з лёгкай чырванью яблык,
Хоць вартуюць сады і страляюць бяз промаху ў лоб.

Я старога пазнаў па сьлязах на абліччы абвялым:
Гэта – Пётра Сьвяты.  Ён – апостал, а я – асталоп.
Вось і шаты садоў, тут да чорта марожаных яблык,
Ды вартуюць сады. Мне дакладна пацэлілі ў лоб.

І пагнаў свае коні я прэч, звар'яцелых, засьмяглых.
Ім бы трошкі аўсу – і тады небясьпека міне!
Ўздоўж абрыва, над безданьню цэлую пазуху яблык
Для цябе я вязу, ты і з раю чакаеш мяне!

## Коні наравістыя

Ўздоўж абрыва, каля бездані, па самаму па краю
Свае коні хуткай плёткай прысьпяшаю, паганяю …
Штосьці мне паветра мала, вецер п'ю, туман глытаю, –
Чую з нейкім захапленьнем: прападаю, прападаю!

Не зважайце, мае коні, на пасьвістваньне вы,
Маёй плёткі не слухайце сьпеў!
Ды толькі трапіліся коні наравістыя мне –
І дажыць не пасьпеў, дасьпяваць не пасьпеў.
Коні я напаю, песьню скончу сваю –
Хоць імгненьне яшчэ на краі пастаю...

Згіну я — мяне віхура нібы пух садзьме з далоні,
І душа мая не знойдзе аніякага ратунку.
Вы, прашу, на крок спакойны пераходзьце, мае коні,
Шлях прадоўжыце хоць крыху да апошняга прытулку!

Не зважайце, мае коні, на пасьвістваньне вы,
Не пужае няхай плёткі сьпеў!
Ды толькі трапіліся коні наравістыя мне –
І дажыць не пасьпеў, дасьпяваць не пасьпеў.
Коні я напаю, песьню скончу сваю –
Хоць імгненьне яшчэ на краі пастаю...

Мы пасьпелі: бо да Бога не прымаюцца спазьненьні,–
Што ж анёлы засьпявалі нешта злымі галасамі?!
Ці наўзрыд званочак плача пад дугою у трымценьні,
Або я крычу, каб коні не імчалі хутка сані?!

Не зважайце, мае коні, на пасьвістваньне вы,
Я прашу вас наўскач не ляцець!
Ды толькі трапіліся коні наравістыя мне –
Я дажыць не пасьпеў, песьню б скончыць пасьпець!
Коні я напаю, песьню скончу сваю –
Хоць імгненьне яшчэ на краі пастаю...



# Змест:

